



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

29 жніўня 2014 года №35 (1009)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Хуліганы разбілі 35 машын

**МАЛАДЗЕЧНА.** Раніцай 26 жніўня ў 7.30 у міліцыю пачалі тэлефанаваць людзі з паведамленнямі аб пашкоджанні машын. Машыны стаялі ў дварах, каля дарогі, пачынаючы з вуліцы Скарыны і да рынку райспажыўтаварыства, пасля па вуліцы Віленскай і да пуцеправода. На дахах некаторых машын засталіся сляды абутку, адламаныя люстэркі задняга бачання, паабіванае шкло ў дзвярах і ззаду. Усяго звярнулася 35 чалавек, але тэлефануюць і цяпер.

### Астравеччыну чакаюць святы

**АСТРАВЕЦ.** Свята вёскі пройдзе ў Дайлідках 31 жніўня. Пачатак – а 16-й гадзіне каля Дома культуры. Арганізоўваюць конкурсы на лепшы падворак. Ад 22 да 2 гадзін ночы ў Доме культуры будзе ісці дыскатэка. Тым часам у Падольцах 30 жніўня наладзяць свята для дзяцей. Пачатак – а 12-й гадзіне каля клуба. Каб развітанне з летам запомнілася, з Астраўца спецыяльна на гэты дзень прывязуць атракцыёны. Пра гэта распавялі ў Цэнтры народнай творчасці ў Астраўцы.

### Калі пачынаць збіраць ягады

У Віцебскай вобласці брусніцы можна збіраць з 16 жніўня, у Мінскай – з 22 жніўня, у Магілёўскай – з 23 жніўня, у Брэсцкай, Гомельскай і Гродзенскай абласцях – з 25 жніўня. Збор журавін пачаўся 23 жніўня ў Магілёўскай вобласці, 25 жніўня – у Віцебскай і Гомельскай. У Брэсцкай вобласці журавіны можна збіраць з 5 верасня, у Мінскай – з 6 верасня, у Гродзенскай – з 10 верасня, паведамляе БелаПАН.

**Аддзел інфармацыі.**





# Якой бачаць школу вучні 1 і 11 класаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Першакласніца Юля Канапелька расказвае, чаму ў трэцім класе будзе гора. А старшакласнік Улад Воўк – дзеля чаго ён ходзіць у школу.**

Юля Канапелька будзе вучыцца ў першым "А" класе гімназіі №6 у Маладзечне. У адзін клас з ёй пойдзе сяброўка з дзіцячага садка **Праскоўя**, ці, як яе завуць дзеці, **Паша**. Хлопчык **Глеб**, з якім яна сябруе, пойдзе ў гэтую ж школу, толькі ў "Б" клас.

– Я ўжо была ў школе на бацькоўскім сходзе. Мне спадабалася: там былі парты, крэслы, месца многа, усё прыгожае, – як у дарослых.

### Настаўніца "прыкольная такая, з жоўтымі валасамі"

На сходзе дзяўчынка пазнаёмілася са сваёй першай настаўніцай. Пакуль яшчэ не запомніла, як яе завуць. Мама падказала, што імя такое ж, як і ў яе – **Юлія**, а прозвішча **Чаркас**. Дзяўчынка з усмешкай здзіўляецца: "А ты не падманваеш?"

Пакуль пра настаўніцу першакласніца можа сказаць, што яна "прыкольная такая, з жоўтымі валасамі". Але верыць у тое, што тая будзе добрая.

Да школы Юлі набылі амаль усё неабходнае. Па яе пераліку можна правяраць спіс патрэбных рэчаў першакласніка:

– Мне купілі заплечнік, расфарбоўку, ручку, тачылку, маркер... Чорненькую форму: спадніцу, сарафан, сукенку. Засталося набыць красоўкі.

Асабліва першакласніца ганарыцца ружовым маркерам. Як сама падкрэслівае, "ружовенькі-ружовенькі".

### "Ведаю – будзе гора"

Дзяўчынка хвалюецца перад першым верасня. А найбольш за тое, што нельга будзе браць з сабой цацкі.

Юля ўжо ведае літары, умее іх пісаць, але ў яе не атрымоўваецца выводзіць словы. Можа лічыць да 100. "А гэта значна цяжэй, чым да 20!" – запэўнівае яна.

У школе дзяўчынка хоча навучыцца пісаць словы, даведацца, як складваць лічбы, напрыклад, 2+2.

– Там усё будзе складана. У першым класе з сабой усё-такі можна будзе браць цацкі. А ў другім яшчэ больш складана. Трэці клас я нават і не ўяўляю, але ведаю – будзе гора. З цацкамі давядзецца развітацца.

Юля вельмі любіць гуляць у "Сяброў анёлаў". У школе будзе займацца і танцамі, і кунфу.

Яна хоча атрымліваць толькі добрыя адзнакі. Інакш мама будзе на яе сварыцца. Але дапаможа выправіць іх.

У будучым хоча працаваць на рынку, але пакуль не вызначылася з тым, што хоча прадаваць. Ці то цацкі, ці то кавуны.

– На рынку можна прадаваць усё і атрымліваць за гэта многа грошай, каб купляць агуркі, памідоры, капусту.

**Заканчэнне на 21-й старонцы.**




Старшакласнік Улад Воўк трымае першакласніцу Юлю Канапельку каля гімназіі №6 у Маладзечне.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Жыхары сабралі на могілкі 13 мільёнаў

## Разам з мясцовай уладай жыхары вёскі Еськаўка добраўпарадкавалі месцы пахаванняў

**ВІЛЕЙКА. ВАЛОЖЫН. Для многіх пытанне ўпарадкавання могілкаў, на якіх пахаваныя іх блізкія, вырашаецца шмат гадоў. Але справу можна паскорыць, калі самім да яе падключыцца.**



Фота lagomiandtreeclimber.wordpress.com.

За спілоўванне аднаго дрэва на могілках спецыялісты бяруць да пяці мільёнаў рублёў.

Менавіта такі прыклад паказалі жыхары вёскі Еськаўка Даўгінаўскага сельсавета. Ведаючы, што ў бюджэце няма сродкаў на навядзенне парадку, яны самі сабралі частку патрэбных на гэта грошай.

– Так, на могілках у нас парадак, – гаворыць жыхарка Еськаўкі **Марыя Кур'янчык**. – Збіралі грошы па вёсцы. Вельмі дапамаглі дзеці тых, чыя бацькі пахаваныя тут. Кожны з іх здаваў па 200 тысяч рублёў.

Мы паразмаўлялі з **Леакадзіяй Лобач**, якая збірала грошы на добраўпарадкаванне могілак.

– Было, канешне, складана. Некаторыя спачатку адмаўляліся, не хацелі даваць грошай. Прыйшлося тлумачыць, упэўніваць людзей. Мне дапамагала **Марыя Шкель**. Дзецям тых, хто тут пахаваны, званілі па тэлефоне. Потым ужо хто і сам прыязджаў, каб аддаць грошы, хто дасылаў поштай. Многія казалі, што мы можам на іх разлічваць, калі грошай не хопіць.

Цяпер вяскоўцы хочуць запрасіць на могілкі святара, каб той асвяціў іх.

### Навесці парадак на могілках можна за тры дні

Другую частку на добраўпарадкаванне выдаткаваў Даўгінаўскі сельвыканкам. Але не ва ўсіх вёсках жыхары гатовыя актыўна далучацца да справы. Не паўсюль людзі гатовыя здаваць грошы, а таксама ўзяць на сябе адказнасць за арганізацыю.

Пытанне пра добраўпарадкаванне могілкаў у вёсцы Сіўцы паднялі на сходзе грамадзян у вёсцы Забродддзе 13 жніўня. Іх непакоіла, што цягам некалькіх гадоў іх просьбы ў сельвыканкам навесці парадак не даюць выніку.

Старшыня Даўгінаўскага сельвыканкама **Аляксандр Маліноўскі** патлумачыў гэту сітуацыю так:

– У наш сельсавет уваходзіць 54 вёскі, у іх 37 могілкаў. За чатыры гады пад маім кіраўніцтвам добраўпарадкавалі 11, атрымліваецца па трое могілкаў за год. Аднак бюджэт не безмерны. Таму я прапаную складвацца напалову з жыхарамі вёсак, якія хочуць добраўпарадкаваць могілкі. Справа пойдзе хутчэй.

Старшыня расказаў і пра тое, як такі падыход працуе на практыцы.

– У вёсцы Еськаўка, – тлумачыць ён, – мы зрабілі могілкі за тры дні. Людзі сабралі грошы. Заказаў агароджу і вароты, вяскоўцы за гэта заплацілі. У сваю чаргу я знайшоў спецыялістаў, якія спілавалі дрэвы.

### Могілкі не адносяцца да сельсавета

Чаму навесці парадак на могілках не так проста, распавядае кіраўніца спраў Валожынскага сельсавета **Людміла Пятровіч**.

– Асобна грошы на догляд могілкаў сельсавету не выдзяляюць, – гаворыць яна. – Але паколькі яны на нашай тэрыторыі, то даглядаць даводзіцца нам. Грошы бяром з тых, што выдзяляюць на добраўпарадкаванне населеных пунктаў. Сёлета, напрыклад, сельсавет на гэта патраціў шэсць мільёнаў.

### Спілаваць дрэва – ад мільёна рублёў

Самастойна даглядаць могілкі зможа не кожны. Нават вырашыць праблему з дрэвамі, якія там растуць, не ўсім па кашальку.

– Спілаваць дрэва на могілках будзе каштаваць не менш за мільён рублёў, – кажа спецыяліст па арбарыстыцы з Мінска. Менавіта арбарысты займаюцца спілоўваннем дрэў і галінак. – Усё залежыць ад таго, якой яно вышыні, наколькі шырокае і старое. Калі для працы трэба будзе везці шмат тэхнікі, то кошт можа ўзрасці да пяці мільёнаў.

### Мастак раіць спілоўваць толькі хворыя дрэвы

Мастак і краязнаўца **Барыс Цітовіч** супраць спілоўвання здаровых дрэў на могілках.

– У даўніну быў звычай, – дадае Барыс Цітовіч. – Калі хавалі чалавека, то саджалі дрэва. Калі яго ссякалі, то яно магло ісці толькі на патрэбы царквы, напрыклад, рабілі крыжы. У наш час вялікія грошы ідуць на выкарчоўванне дрэў.

На думку краязнаўцы, выкарчоўваць варта толькі хворыя дрэвы.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандра ПАРАХНЯ, Галіна СІНІЦА.**

ПАМЯЦЬ

## Памерла Наталля Салава

**ВІЛЕЙКА. 12 жніўня з-за хваробы пайшла з жыцця віляйчанка Наталля Салава. Да свайго 30-годдзя яна не дажыла чатыры дні.**



Фота ok.ru

Наталля Салава.

У Вілейцы Наталлю ведалі як таленавітую спявачку. Яна была салісткай узорнай эстраднай студыі "Экспромт". У 2004 годзе на фестывалі "Адна зямля" Наталля заваявала Гран-пры.

Потым скончыла Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Была салісткай Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча, ансамбля казацкай песні "Бацька-атаман" з Мінска. Станавілася лаўрэатам міжнародных конкурсаў.

У сацсетцы "Аднакласнікі" стварылі групу "Салава Наталля. Група памяці нашай зорачкі" і суправадзілі яе такім словамі:

"Ты прыйшла ў наш свет яркай зоркай, ёю і застанешся. Грэла нас сваім голасам, які мы захаваем у сваёй памяці. Твой бляск у блакітных вачах і прыгожая ўсмешка заўсёды будуць служыць нам прыкладам у цяжкія хвіліны. Любім, памятаем, смуткуем!"

**Аддзел інфармацыі.**

ДЗІКАЯ ПРЫРОДА

## Гарнастая і прасянку занеслі ў Чырвоную кнігу Беларусі

**У Чырвонай кнізе Беларусі – змены. Памяняліся спісы рэдкіх відаў дзікіх жывёл і дзікарослых раслін, а таксама тых, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення.**

Усяго ў Чырвонай кнізе налічваецца 202 дзікія жывёлы, 70 відаў птушак, дзве рэптыліі, дзве амфібіі, дзевяць відаў рыб, адна мінога, а таксама 98 відаў беспазваночных жывёл.

**Акрамя зубра, бурага мядзведзя, барсука, рысі, еўрапейскай норкі ў новую рэдакцыю Чырвонай кнігі ўнесены яшчэ адзін від – гарнастай. Раней ён быў уключаны ў спісы паляўнічых жывёл. Ад 26 чэрвеня і ён знаходзіцца пад аховай дзяржавы.**

Выключылі з Чырвонай кнігі белую чаплю, шэрую гусь і белашчокую крачку. У той жа час пад пагрозай знікнення апынулася прасянка, якую ўзялі пад ахову.

Некаторыя змены адбыліся і з рыбамі-"чырванакніжнікамі". Рэдкімі і якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення, як і раней, з'яўляюцца сцерлядзь, атлантычны ласось, еўрапейскі харыус, кумжа, ручаёвая стронга, еўрапейская корушка, вусач звычайны і рыбец. Да гэтага спісу дадаўся і новы від – азёрны гальян.

Выключылі з Чырвонай кнігі рапушку еўрапейскую (сялява), а таксама падуста.

У спісы рэдкіх і тых, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення на тэрыторыі Беларусі, унесеныя таксама 303 віды дзікарослых раслін.

**У выпадку незаконнай здабычы або знішчэння відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Беларусі, прычыненая навакольнаму асяроддзю шкода спаганяецца ў трайным памеры ад устаноўленых такс.**

У залежнасці ад нанесенай шкоды ў дачыненні да вінаватых асоб можа наступіць адміністрацыйная або крымінальная адказнасць.

**Валеры КЛЯНОЎСКІ, начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

УЛАДА

## Лукашэнка параіў будаваць аграсядзібы

**ВАЛОЖЫН. Такім чынам можна даць другое жыццё вёсцы. Гэту выснову зрабіў Аляксандр Лукашэнка падчас рабочай паездкі на Валожыншчыну ў пятніцу, 22 жніўня.**

Ён наведаў валожынскія аграсядзібы, каб пазнаёміцца са станам беларускага аграэкатурызму і падштурхнуць яго развіццё.

– Ёсць у нас вельмі многа вёсак. Раней іх называлі неперспектыўнымі. А яшчэ хутары, – адзначыў Прэзідэнт. – Чаму б чалавеку, які там вырас, ці проста бізнесмену, ці любому ахвотнаму не пабудаваць там аграсядзібу? Рэанімаваў бы вёску.

Мясцовым жыхарам ён прапануе прыглядаць за сядзібамі. А ўласнікі не ўзабаве маглі б арганізаваць фермерскую гаспадарку:

– Дапусцім, разводзілі поні, а магчыма, і дзясятак кароў бы трымалі. Гэта яшчэ прыйдзе. Я хачу гэтым рэанімаваць нашы вёсачкі. А то аграгарадкі мы пабудавалі, добра, але гэта, лічы, будучы горад, а вось вёскі, хутары трэба падняць, наколькі гэта магчыма.

Аляксандр Лукашэнка бачыць для Беларусі як транзітнай краіны патэнцыял у развіцці прыдарожнага сэрвісу. Такім чынам можна падтрымаць невялікія населеныя пункты.

Прэзідэнт падкрэсліў, што чым больш людзей, якія ствараюць уласнасць сваімі рукамі, тым мацней незалежнасць краіны.

Гаспадары сядзіб падзякавалі за спрыяльныя ўмовы. У адказ атрымалі падзяку за тое, што ратуюць Беларусь.

**За апошнія шэсць год у Беларусі стала ў дзесяць разоў больш аграсядзібаў (са 188 да 1881).**

Дзейнасць у сферы аграэкатурызму не лічыцца прадпрымальніцкай. Яе суб'екты пазбаўленыя падатку і плацяць толькі раз на год базавую велічыню. Для рэалізацыі праектаў прадугледжанае льготнае крэдытаванне.

**Паводле афіцыйнага інтэрнэт-партала Прэзідэнта Беларусі.**


Фота Ігара МАРОЗА.

На вуліцы Талстога ў Вілейцы. Каля сямі гадзін раніцы. Прыпынак “Аптэка”.

● ТРАНСПАРТ

# Вілейскі аўтапарк чакае новыя аўтобусы

**ВІЛЕЙКА. Зрыў графіка руху аўтобусаў, іх неналежны выгляд. За гэта крытыкавалі мясцовы аўтапарк на пасяджэнні райвыканкама ў ліпені.**

Дырэктар філіяла “Аўтобусны парк №5” **Леанід Гамолка** тлумачыць, калі чакаць выпраўлення сітуацыі.

**– Чаму здараюцца зрывы ў раскладзе гарадскіх маршрутаў?**

– На першым і трэцім маршрутах на графік руху ўплывае тое, што чыгуначны пераезд, бывае, закрываецца на пяць-шэсць хвілін. І наверстаць адставанне ўжо складана. Па законе дапускаецца плюс-мінус дзве-тры хвіліны адхілення ад графіка.

Але асноўная прычына парушэння графіка – тое, што ў нас няма рэзерву аўтобусаў вялікай напаўняльнасці. На шасці маршрутах задзейнічаная дзесяць аўтобусаў. Яны пераважна старыя. “МАЗу-104” ужо трынаццаты год пайшоў, хаця норма эксплуатацыі гарадскога аўтобуса дзесяць год. Па шэсцьвосем год “Нёманам” – ненадзейныя аўтобусы, ужо не выпускаюцца. Толькі тры маем “МАЗы-103”, якім ад трох да пяці год.

Так што, большасць аўтобусаў старыя. І калі ў аднаго паломка, то самі разумееце, што ламаецца графік, зрываюцца рэйсы. А на дзесяць аўтобусаў павінны быць два рэзервовыя. Адзін, напрыклад, на тэхабслугованні, іншы – у рэзерве. Каб на працягу пяцідзесяці хвілін змаглі замяніць на рэйсе аўтобус, які зламаўся.

Ці ж дапусцілі б мы зрыў графіка з-за тэхнічнай няспраўнасці? Замянілі б адразу, каб было чым. Проста не было чым замяніць.

**– І як плануеце выходзіць з гэтага становішча?**

– Плануем да пачатку верасня атрымаць два аўтобусы “МАЗ-103”. Тады выключым зрывы рэйсаў, якія часам дапускаліся з-за тэхнічнай няспраўнасці. Калі атрымаем гэтыя аўтобусы, то сітуацыя выправіцца, горад уздыхне з палёгкай. Да новага мікрараёна Паўночны-22 дадатковы рэйс адкрыем, бо асабліва раніцай у цэнтр, на працу цяжка заехаць.

**На прыпынках павесілі новыя шыльды з раскладам маршрутаў. Змен у іх пакуль няма. Калі атрымаем новыя аўтобусы, то па “тройцы” і “адзінцы” будуць змены.**

**– А што змянілася са станам аўтобусаў?**

– Усярэдзіне пафарбавалі поручні, металічныя канструкцыі, у некалькіх аўтобусах адрамантавалі падлогавае пакрыццё. Звонку падфарбавалі. Тое, што маглі, зрабілі. Але што можна зрабіць са старога аўтобуса, якому 12-13 год?

Мыюцца аўтобусы рэгулярна: у нас цяпер тры мыйшчыцы. Але калі дождж ідзе, то праехаў аўтобус раз-два па горадзе – і ўжо брудны. Аднак не знімеш яго з лініі, каб памыць. Адразу дапрацоўвае змену, потым праводзім санітарную ўборку.

**– А на далейшую перспектыву што?**

– Трэба мяняць рухомы састаў, каб быў рэзерв аўтобусаў. Той жа “МАЗ”, якому 13-ы год, будзем мяняць у 2015 годзе. Тады яшчэ атрымаем новы аўтобус. Паступова будзем замяняць старыя аўтобусы, каб не было ў горадзе праблем. Але гэта залежыць ад таго, ці будуць нам своечасова выдзяляць сродкі з бюджэту на абнаўленне.



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail: alvy@tut.by

| Курсы валют НБ РБ | 21.08 руб. | 28.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 390,00 | **10 420,00** |
| Еўра | 13 820,00 | **13 730,00** |
| Злоты | 3 303,55 | **3 282,46** |
| Літ | 4 000,15 | **3 977,33** |
| Расійскі рубель | 287,00 | **288,50** |
| Грыўня | 787,12 | **764,52** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13770/13860 | **13710** |
| Долар ЗША | 10360/10410 | **10410** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.08 | 27.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 144900 | **144900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51900 | **54450** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29800 | **28900** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 115000 | **110000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 26900 | **27150** |
| Селядзец, 1 кг | 35000 | **35000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 103800 | **105800** |
| Рыс, 0,9 кг | 14200 | **14200** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей “Масловія” | 13500 | **13650** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 30000 | **30000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9350 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **7000** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **5000** |
| Морква, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Буракі, 1 кг | 5500 | **4900** |
| Лімоны, 1 кг | 39000 | **35000** |
| Апельсіны, 1 кг | 16500 | **18500** |
| Мандарыны, 1 кг | 21500 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 7500 | **7900** |
| Агуркі, 1 кг | 8500 | **15900** |
| Кавун, 1 кг | 5500 | **4900** |
| Дыня, 1 кг | 11500 | **11900** |
| Вінаград, 1 кг | 27000 | **21500** |
| Бананы, 1 кг | 11500 | **12000** |
| Яблыкі, 1 кг | 10500 | **10500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23900 | **23900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Вілейскі камбікормавы завод пад пагрозай зрыву

**ВІЛЕЙКА. Правапарушэнні, якія выявіў Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю падчас праверкі, ставяць пад пытанне будучыню завода.**

ААТ “Вілейскі камбікормавы завод” зацягвае рэканструкцыю і мадэрнізацыю вытворчасці, хаця работы ідуць ад 2012 года.

У выніку прадпрыемства не можа дасягнуць запланаваных вынікаў.

**За 2013 год прыбытковасць завода ад рэалізацыі прадукцыі знізілася на 54%.**

Абсталяванне, якое завод набыў у межах мадэрнізацыі, дагэтуль не выкарыстоўваецца. Лінія гранулявання пакуль не пачала працаваць, з-за чаго асартымент прадукцыі і яе аб’ём зменшыўся. Сёлета за пяць месяцаў абсталяванне загрузілі толькі на палову.

Да таго ж завод мае за сабой вялікую крэдыторскую запазычанасць, парушэнні бухгалтарскага ўліку, правілаў гандлю і займаецца незаконным прадпрымальніцтвам.

У выніку праверкі праваахоўныя органы прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці 11 работнікаў, а таксама само таварыства, якое мусіць заплаціць штраф у памеры 16 мільёнаў рублёў. 55 мільёнаў ужо спаганалі ў бюджэт. Чатыры службовыя асобы атрымалі штрафы па пяць мільёнаў рублёў.

Матэрыялы па справе накіраваныя ў гаспадарчы суд Мінскай вобласці.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

● ГРОШЫ

# Папоўнілі бюджэт з утоеных падаткаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У выніку праверкі інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах бюджэт папоўніўся на 14 мільёнаў рублёў.**

Такая сума была пералічаная грамадзянамі, якія сёлета ўхіляліся ад выплаты падаткаў. Іх выявілі падчас кантролю даходаў і маёмасці фізічных асоб.

Інспекцыя можа патрабаваць дэкларацыі аб даходах і маёмасці па пісьмовым запыце органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, органаў унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі і пракуратуры.

Інспекцыя разглядае таксама звароты грамадзян, якія паведамляюць аб утойванні даходаў.

**Паводле паведамлення інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Не прапусціў “Форд” – малы сын у бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак, 25 жніўня, а сёмай гадзіне вечара на вуліцы Касманаўтаў сутыкнуліся 21-гадовыя кіроўцы.**



Фота cit.by.

Малады кіроўца выязджаў з двара інтэрната па Касманаўтаў у Маладзечне і ўехаў у машыну свайго калегі. У дзіцячым крэсле ён вёз 1,5-гадовага сына.

Абодва аўтамабілі не мелі тэхагляду.

Выязджаючы з двара інтэрната, кіроўца “Опеля-Астры” паварочваў налева. Ён не саступіў “Форду-Скорпіё”, які рухаўся па галоўнай дарозе.

У выніку аварыі кіроўца “Опеля” атрымаў пашкоджанні і шпіталізаваны ў траўматалогію. Яго паўтарагадовы сын, які сядзеў у дзіцячым крэсле на заднім сядзенні, атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму і страсенне мазгоў лёгкай ступені. Ён шпіталізаваны ў дзіцячую хірургію.

Кіроўца “Форда” не пацярпеў.

Абодва кіроўцы працуюць у адной арганізацыі.

Пра здарэнне паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

## Прычына аварыі: адваліліся колы

**ВАЛОЖЫН. СМАРГОНЬ.** Аварыя адбылася 20 жніўня каля гадзіны дня.

58-гадовы смаргонец ехаў разам з 35-гадовай дачкой на аўтамабілі “Альфа-Рамэа” ў бок Маладзечна. Спераду ехала “Івека”, якой кіраваў 54-гадовы жыхар Нясвіжскага раёна.

Падчас руху ў “Івекі” адкруціліся заднія колы. Як прызнаўся гаспадар аўто, перад выездам ён іх мяняў. Аднак, напэўна, дрэнна закруціў балты.

Кіроўца “Альфа-Рамэа” стукнуўся ў “Івеку”, паміж імі была невялікая адлегласць. Пасля ўдару аўтамабіль, які быў спераду, з’ехаў у кювет.

У выніку аварыі пацярпела пасажырка “Альфа-Рамэа”. У яе зламаная ключыца.

“Хуткая” адвезла яе ў валожынскую бальніцу, дзе ёй аказалі першую медыцынскую дапамогу. Затым бацька забраў яе ў смаргонскую бальніцу.

Пра гэта распавёў начальнік аддзялення ДАІ ў Валожыне **Міхаіл Ліштван**.

## На машыне збіў хлопчыка

**ВІЛЕЙКА.** Пакуль бацька стаяў на тратуары, а маці рабіла сабе прычоску ў цырульні, 7-гадовы хлопчык выбег на дарогу, дзе яго збіў 20-гадовы віляйчанін.

Набліжаючыся да пешаходнага пераходу на аўтамабілі “Фольксваген”, кіроўца не знізіў хуткасць. Адбылося здарэнне на вуліцы “50 год Кастрычніка” ў Ізі.

У хлопчыка зламанае правае сцягно. Ён у бальніцы.

Аб гэтым паведаміў старшы інспектар аддзела агітацыі і прапаганды Гродзенскай ДАІ УУС **Алег Дук**.

**Галіна СІНІЦА.**

## 160 па гравійцы: перакуліліся

**АСТРАВЕЦ.** Здарэнне адбылося 21 жніўня. У “Пежо” ехала п’яная кампанія.

Адзін з пасажыраў распавёў ДАІ, што ён са знаёмым піў піва ў скверы. Іншы знаёмы запрасіў яго пакатацца на машыне. Калі яны спускаліся з горкі каля вёскі Ліцвяны, спідометр паказваў хуткасць 160 кіламетраў за гадзіну.

Пасажыр сказаў усім прышпіліцца, але ніхто не паслухаўся. На гравійцы машына стала некіруемай і некалькі разоў перакулілася. Кіроўцу і пасажыра з пярэдняга сядзення выкінула з машыны. Апошні загінуў.

**Паводле gaigrodno.by.**

● СЛУЖБЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

## Загарэўся аўтамабіль з-за замыкання электраправодкі

**АСТРАВЕЦ.** 20 жніўня каля сямі гадзін вечара ў вёсцы Малі па вуліцы Баравой загарэўся аўтамабіль“Пежо-Баксёр” 2002 года выпуску.

Ён стаяў за домам. Таму рабочыя, якія працавалі там, спачатку загарання не заўважылі. Ужо пазней агонь убачыў уласнік участка.

Спачатку аўто тушылі вогнетушыцелем. Калі ўбачылі, што не спраўляюцца, выклікалі выратавальнікаў.

Папярэдняя прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі.

Пра гэта распавёў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць**.

## Не справіўся з кіраваннем і апынуўся ў кювеце

**АШМЯНЫ.** Здарэнне адбылося ў вёсцы Жупраны.

Юнак на матацыкле “Сузукі” на павароце няправільна выбраў хуткасць і вылецеў у кювет.

Цяпер шпіталізаваны.

Аб гэтым паведаміў старшы інспектар аддзела агітацыі і прапаганды Гродзенскай ДАІ УУС **Алег Дук**.

**Галіна СІНІЦА.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Знікла з лецішча

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклую жанчыну – Ірыну Канстанцінаўну Свірыд.**



Ірына Свірыд.

Нарадзілася яна 3 жніўня 1972 года. Жыве ў Мінску на праспекце Ракасоўскага.

У перыяд ад 1 да 3 жніўня пайшла з лецішча і дагэтуль невядома, дзе яна. Лецішча знаходзіцца на Маладзечаншчыне, садовае таварыства “Надзея”.

На выгляд зніклай 43-45 год. Зялёныя вочы, прамыя светлыя валасы. Звонкі голас.

Была апранутая ў белыя шорты, белую майку і гумовыя сланцы.

Выпівае, курыць.

Мае шрам ад апендыцыту.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра яе месцазнаходжанне, пазваніце па тэлефонах: (80176) **74-96-83**, **77-03-12**, **77-16-56** ці **102**.

**Андрэй КАВАЛЁНАК,**
**оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Аштрафавалі на 12 мільёнаў за рыбалку

**ВІЛЕЙКА. Асуджаны віляйчанін, які другі раз за год папаўся на незаконнай рыбалцы. Суд прайшоў у ліпені.**

56-гадовы віляйчанін каля шасці раніцы 26 сакавіка на беразе Віліі непадалёк ад завода “Віларыё” незаконна лавіў рыбу. Ён выкарыстоўваў забароненую прыладу для лоўлі – пад’ёмную сетку.

Але парыбачыць яму так і не ўдалося. Яго затрымалі на месцы злачынства інспектары Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Абвінавачаны на судзе цалкам прызнаў віну. Ён расказаў, што 3 студзеня яго ўжо прыцягвалі да адказнасці. Ён выплаціў штраф, а прылады для лоўлі ў яго канфіскавалі.

Суд прызнаў віляйчаніна вінаватым і прызначыў пакаранне – штраф у памеры 80 базавых велічынь (12 мільёнаў рублёў). Пад’ёмную сетку канфіскавалі. Арыштаваны аўтамабіль “Опель-Астра” спагналі ў лік выплаты штрафу.

Віляйчанін раней не быў судзімы. Жанаты. Працуе кіроўцам.

**Кірыл ЧАБАН,**
**намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● ЗДАРЭННІ

## Затрымалі падлеткаў, што збеглі са спецвучылішча

**МЯДЗЕЛ. У Асіповічах на Магілёўшчыне затрымалі трох непаўналетніх, якія ўцяклі 30 ліпеня з Крывіцкага спецвучылішча 3 закрытага тыпу ў Мядзельскім раёне.**

19 жніўня ў Асіповічах угналі аўтамашыну УАЗ, паведамляе БелТА. Падчас расследавання пры наведванні кватэры аднаго з цяжкіх падлеткаў міліцыянеры знайшлі там “гасцей” з Крывічоў.

Паводле УУС Магілёўскага аблвыканкама, падлеткі прызналіся ва ўгоне.

УАЗ адшукалі ў лясным масіве ў межах горада. Пяцёра выхаванцаў збеглі з Крывіцкага спецвучылішча 30 ліпеня каля трох гадзін ночы.

У Асіповіцкі раён яны прыехалі да аднаго з сяброў. А УАЗ угналі, каб пракаціцца па начным горадзе. Да гэтага спрабавалі завесці матацыкл і іншую машыну.

**Двое з пяці гэтым летам ужо збягалі з вучылішча.**

Першы пабег адбыўся 1 чэрвеня. Тады са спецвучылішча збеглі восем падлеткаў.

Праз некалькі дзён іх затрымалі ў Расіі. Чацвярых на чыгуначнай станцыі Рудня, трох – на чыгуначным вакзале ў Смаленску, аднаго – у Маскоўскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

АСТРАВЕЦ – 5
• 2 тэрапеўты
• 1 стаматолаг
• 1 педыятр
• 1 псіхіятр-нарколаг
■ 10 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй

МЯДЗЕЛ – 14
• 3 рэнтгенолагі
• 3 тэрапеўты
• 3 педыятры
• 1 акушэр-гінеколаг
• 1 оталарынголаг
• 1 анестэзіёлаг-рэаніматолаг
• 1 псіхіятр-нарколаг
• 1 доктар агульнай практыкі
■ 19 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
▲ 1 інтэрн

ВІЛЕЙКА – 3
• 1 оталарынголаг
• 1 анколаг
• 1 тэрапеўт
■ 26 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
▲ 5 інтэрнаў

СМАРГОНЬ – 6
• 2 рэнтгенолагі
• 1 хірург
• 1 педыятр
• 1 доктар лабараторнай дыягностыкі
• 1 доктар агульнай практыкі
■ 13 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
▲ 8 інтэрнаў

АШМЯНЫ – 11
• 2 псіхіятры-нарколагі
• 2 стаматолагі
• 2 рэнтгенолагі
• 1 анестэзіёлаг-рэаніматолаг
• 1 хірург
• 1 участковы тэрапеўт
• 1 педыятр
• 1 оталарынголаг
■ 14 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй

МАЛАДЗЕЧНА – 22
• 2 педыятры
• 2 стаматолагі
• 2 оталарынголагі
• 2 псіхіятры-нарколагі
• 2 псіхатэрапеўты
• 3 дактары "хуткай дапамогі"
• 5 участковых тэрапеўтаў
• 1 анестэзіёлаг-рэаніматолаг
• 1 дзіцячы хірург
• 1 неўролаг
• 1 афтальмолаг
■ 40 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
▲ 25 інтэрнаў

ВАЛОЖЫН – 12
• 4 дактары агульнай практыкі
• 1 акушэр-гінеколаг
• 1 оталарынголаг
• 1 рэаніматолаг
• 1 анестэзіёлаг
• 1 рэнтгенолаг
• 1 стаматолаг
• 1 педыятр
• 1 хірург
■ 18 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй

● – дактары
■ – спецыялісты з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй
▲ – інтэрны

Інфаграфіка Настасі РОЎДЫ, Галіны СІНІЦЫ.

● МАЛАДЫЯ СПЕЦЫЯЛІСТЫ

# У рэгіёне выйшлі на працу 72 маладыя дактары

**Ад першага жніўня ў бальніцах нашага рэгіёна з'явіліся 72 маладыя дактары, 140 спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй, 39 інтэрнаў.**

**АСТРАВЕЦ.** На Астравеччыну прыйшлі 15 медыкаў. Два спецыялісты з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй не выйшлі на працу. Адзін з іх паступіў у Гродзенскі медыцынскі ўніверсітэт, другі – у Віцебскую ветэрынарную акадэмію.

Загадчыца кадравага сектара **Антаніна Гражуль** адзначыла, што ў раёне па-ранейшаму не хапае медсясцёр.

**АШМЯНЫ.** У Ашмянскім раёне пабольшала на 25 медыцынскіх работнікаў. Чатыры спецыялісты з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй працуюць у раёне: фельчар-лабарант у Гальшанскай лабараторыі, акушэркі ў Муравана-Ашмянскай лабараторыі і ў Кальчунскім акушэрскім пункце. У Навасёлкаўскай амбулаторыі з'явіўся памочнік доктара па амбулаторна-паліклінічнай дапамозе.

Старшы інспектар па кадрах **Уладзіслава Пяткевіч** заўважае, што ў бальніцах не хапае фельчараў на фельчарскія пункты і медсясцёр.

**ВАЛОЖЫН.** 30 медыкаў прыйшлі ў Валожынскі раён. Але ўсё роўна не хапае медсясцёр, дактароў вузкай спецыялізацыі: неўролага, псіхіятра-нарколага, фізіятэрапеўта, доктара лабараторнай дыягностыкі, рэабілітолага.

Пра гэта паведаміла начальнік аддзела кадраў цэнтральнай раённай бальніцы **Тамара Круглік.**

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы не хапае ўчастковых тэрапеўтаў, адзначыла начальнік аддзела кадраў **Алена Філістовіч.** Усяго прыйшлі 34 медыкі.

**МАЛАДЗЕЧНА.** На Маладзечаншчыне працуюць 87 новых медыкаў. Два з іх, тэрапеўт і стаматолаг, – у Красненскай ўрачэбнай амбулаторыі, тэрапеўт – у Радашкавіцкай бальніцы, астатнія – у Маладзечне.

Як адзначыла начальнік аддзела кадраў **Алена Тумаш**, не хапае дактароў вузкай спецыялізацыі – кардыёлагаў, неўролагаў, уролагаў, траўматолагаў, участковых тэрапеўтаў.

**МЯДЗЕЛ.** 34 маладыя медыкі з'явіліся ў Мядзельскім раёне. Тры з іх працуюць у раёне: тэрапеўт – у Свірскай участковай бальніцы, педыятр – у Нарачанскай бальніцы, доктар агульнай практыкі – у Крывіцкай бальніцы. Астатнія спецыялісты засталіся ў Мядзеле.

Як адзначыла начальнік аддзела кадраў **Тамара Лаўнікоўская**:

– У бальніцы не хапае псіхіятра-нарколага для наркалагічнага кабінета, фізіятэрапеўта, рэабілітолага. Няма загадчыка Слабадской амбулаторыі.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргоні 27 маладых медыкаў. Паводле слоў начальніка аддзела кадраў **Ліліі Булавай**, не хапае эндакрыналагаў, тэрапеўтаў, стаматолагаў, кардыёлагаў.



**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

● ВЫСТАВЫ

# Якой была вайна ў Смаргоні: ад танцаў да газавых атак

**СМАРГОНЬ. Да канца верасня ў Смаргонскім краязнаўчым музеі можна ўбачыць рэчы стогадовай даўніны.**

Выставу зладзілі з экспанатаў Мінскага гісторыка-краязнаўчага музея і прыватнай калекцыі **Ігара Бабіцкага**.

Экскурсію па ёй для чытачоў "РГ" правяла **Вольга Самаркіна**, навуковы супрацоўнік Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.


Фота захоўваецца ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Салдаты расійскай арміі ў рэдкую хвіліну адпачынку падчас Першай сусветнай вайны.

## Як вялі бой з дырыжаблям

На выставе шмат разнастайнай зброі канца 19 – пачатку 20 стагоддзя. Сярод яе вінтоўка часоў руска-японскай вайны, аўстра-венгерскія вінтоўкі Манліхера 1895 года, пісталет з прыкладам, казацкія шашкі, афіцэрская шпага.

Ёсць і кулямёт "Максім". Кулямётчыкаў спецыяльна вучылі псіхалагічна вытрымліваць тое, што яны страляюць у людзей з такой зброі. Яны павінны былі заўсёды быць гатовыя да бою. Кулямёты выкарыстоўвала не толькі пяхота, але і паветраныя сілы.

На фота можна ўбачыць і іншыя віды ваеннай тэхнікі. Напрыклад, бронецягнікі і дырыжаблі. Каб весці абстрэл з дырыжабляў, спачатку хаваліся за воблакам, а пасля з-за хмары спускалі назіральнікаў і пачыналі бой.

Драўляны чатырохматорны аэраплан "Ілля Мурамец" немцы збілі непадалёк ад вёскі Баруны на Ашмяншчыне і скінулі запіску ў аэраапарад, што яны з пашанай пахавалі сваіх праціўнікаў.

## Хімічная зброя: дзве тысячы ахвяраў за атаку

На Смаргоншчыне немцы ўпершыню прымянілі газавую атаку. Мяркуецца, што гэта было ў чэрвені 1916 года, хаця ёсць звесткі і пра кастрычнік 1915 года. У выніку атак загінулі дзясяткі тысяч.

Атакі адбываліся наступным чынам. Вечарам, калі дзьмуў спадарожны вецер, з балона выдзімалі газ. За паўтары гадзіны ён разыходзіўся ўздоўж чыгуначнага палатна амаль да Маладзечна. Гінула ўсё жывое, што было вакол. Нават увесну пасля газавай ночы ляжала апалае лісце.

Пазней немцы выкарыстоўвалі не толькі балоны, але і запускалі снарады з газам. Спачатку газ выклікаў паніку: людзі не разумелі, як ратавацца. Процівагазаў яшчэ не было. Выкарыстоўвалі павязкі з тканіны, якія трэба было яшчэ паспець апрацаваць спецыяльным сродкам.

Пазней вынайшлі процівагазы не толькі для людзей, але і для каней, якія служылі на патрэбы арміі.

**За адну газавую атаку загінула больш за дзве тысячы салдат і каля 40 афіцэраў. Такіх атак было некалькі.**

Асобны стэнд прысвечаны ваеннай медыцыне. На ім сабраныя тагачасныя стаматалагічныя і хірургічныя інструменты. Дактароў не хапала, таму медыцынскія ўстановы скарацілі тэрмін навучання з пяці да чатырох гадоў. Маладых дактароў адразу адпраўлялі на фронт. Іх асноўнай задачай было не вылечыць хворага салдата, а як мага хутчэй вярнуць яго ў строй.

## З гільзаў рабілі творы мастацтва

Побыт нямецкіх і расійскіх салдат вельмі адрозніваўся. Расійскія жылі ў зямлянках, спалі на саломе, прыкрываючыся шынялямі. Блохі былі звычайнай справай. Усходні фронт стаяў на Смаргоншчыне 810 дзён. Ні нямецкі, ні расійскі бок не чакалі, што вайна настолькі расцягнецца.

Нямецкія салдаты, зразумеўшы, што вайна зацягваецца, ад 1916 года пачалі будаваць доты – пабудовы, прызначаныя для доўгачасовай абароны. Іх захавалася настолькі шмат, што нават цяпер узараць зямлю пад поле ў некаторых месцах Смаргоншчыны немагчыма.


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Вольга Самаркіна.

На адным са стэндаў арганізатары размясцілі прадметы, звязаныя з іншым бокам вайны. У часы, калі было зацішша, салдаты імкнуліся пераключыцца на іншыя, больш прыемныя рэчы. Танцавалі, спявалі народныя песні, гулялі ў карты. І нават майстравалі. На выставе можна пабачыць вазы, зробленыя з гільзаў. На іх – выявы раслін і жывёл.

Адзін са стэндаў выставы прысвечаны знакамітым удзельнікам вайны. Тут можна пабачыць партрэты Якуба Коласа, Янкі Купалы, Льва Гумілёва, Міхаіла Зошчанкі, Валянціна Катаева. Падзеям на Смаргонскім фронце прысвечанае апавяданне Катаева "Пад Смаргонню".

## За вайну смаргонцаў паменела ў 100 разоў

Горад быў амаль знішчаны падчас вайны. Калі да 1914 года тут жыло 16 280 чалавек, то пасля вайны вярнулася толькі каля 150. Амаль не засталося цэлых будынкаў, таму людзі жылі ў зямлянках. Каб хоць неяк пражыць, яны мусілі пешшу ісці ў Мінск і жабраваць.

Бежанцы, пакінуўшы Смаргонь, імкнуліся ўладкавацца ў Маскве ці Петраградзе. Пакуль Мікалай II быў ва ўладзе, ім выплачвалі дапамогу. Пасля смерці цара сродкаў на бежанцаў не было.

**Калі ў сем'ях памірала дзіця, бежанцы ўспрымалі гэта як палёгку, бо пазбаўляліся лішняга рота.**

У Смаргоні ўцалеў толькі будынак царквы, які пасля стаў касцёлам святога архангела Міхаіла.

У ліпені 1917 года абодва бакі спрабавалі пераламаць ход вайны. Значныя падзеі разгарнуліся пад Крэвам. У замку месціліся нямецкія пазіцыі, а наш бок сканцэнтраваў самую сучасную зброю з Англіі, ЗША, якія толькі далучыліся да Антанты. Менавіта падчас тых баёў Крэўскі замак быў амаль цалкам разбураны.

З-за таго, што ў Расійскай імперыі змянілася ўлада, у арміі пачаўся разлад. Каб натхніць салдат на барацьбу, пад Крэва кінулі першы жаночы ўдарны батальён з Петраграда пад камандаваннем Марыі Бачкаровай. Але гэта не спрацавала: многія салдаты наогул адмаўляліся ваяваць.

Да таго ж пад Крэвам не рэдкасцю сталі братанні нямецкіх і рускіх салдат: яны абдымаліся і абменьваліся рэчамі.

## Рарытэты чакаюць гаспадара на звалцы

Пра тое, як у музей патрапілі экспанаты стогадовай даўніны, нам распавёў суарганізатар выставы, калекцыянер і даследчык Ігар Бабіцкі.

– Можна сказаць, што частка экспанатаў – амаль са звалкі, – кажа Ігар Бабіцкі. – Падчас паездак па краіне я знаходжу старыя разбураныя дамы без вокнаў і дзвярэй, размаўляю з мясцовымі, дамаўляюся са старшынямі сельвыканкамаў і пачынаю пошук. Нешта купляю ў іншых калекцыянераў.

Рэчы, выстаўленыя цяпер у Смаргоні, калекцыянер знайшоў на Смаргоншчыне, Мядзельшчыне і ў іншых раёнах заходняй Беларусі. Апантанасць гісторыяй перадалася і сыну калекцыянера. **Арцём Бабіцкі** удзельнічаў на адкрыцці смаргонскай выставы і паказваў майстэрства валодання казацкай шашкай.

– Адметны на выставе набор латунных лічбаў, якія чапляліся на пагоны, – заўважае калекцыянер. – Пасля пачатку вайны іх перасталі выпускаць: нават званы пераплаўлялі на зброю, таму металу для пагонаў не было. Тыя, што захаваліся – парадны варыянт, дарагі для тых часоў.

Вызначыць самы незвычайны прадмет даследчыку складана: кожны з іх мае сваю каштоўнасць. Ён прапануе наведнікам самім знайсці тое, што будзе цікава менавіта ім.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КОНКУРСЫ

## Вашы здымкі Вілейшчыны могуць трапіць на паштоўкі

**ВІЛЕЙКА.** Да 31 жніўня праходзіць фотаконкурс "Спадчына Вілейшчыны". Праводзіць яго краязнаўчае выданне "Волат" разам з сайтам vialejka.info.

На сайце можна дадаць свой здымак і прагаласаваць за лепшыя. Пераможцы конкурсу атрымаюць прызы. Далей адмысловая камісія абярэ 10 прац.

Іх надрукуюць у вялікім фармаце і зробяць фотавыставу, расказаў кіраўнік суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзяніс Канецкі**. А потым выдадуць паштоўкамі.

Ужо даслалі каля сарака здымкаў. Тут не толькі выявы храмаў і рэшткі маёнткаў. Ёсць фатаграфіі старога малітоўніка, вышываных ручнікоў, посцілак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● НАВУКА

## Абмяркуюць Першую сусветную на міжнароднай канферэнцыі

**ВІЛЕЙКА.** Міжнародная навуковая канферэнцыя пад назвай "Першая сусветная вайна ў гістарычных лёсах Еўропы" пройдзе ў Вілейцы 18 кастрычніка.

Прымеркаваная яна да 100-годдзя вайны.

Сярод шматлікіх напрамкаў працы канферэнцыі будуць і звязаныя з нашым рэгіёнам.

Напрыклад, такія: "Вілейскі край у гады Першай сусветнай вайны", "810 дзён бітвы за Смаргонь", "Нарачанская і Баранавіцкая наступальныя аперацыі".

**Аддзел інфармацыі.**

● СВЯТЫ

## У суботу Вілейшчына і Мядзельшчына святкуюць "Дажынкі"

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ.** У Людвінове Вілейскага раёна 30 жніўня пройдзе раённае свята "Дажынкі".

У фае Дома культуры запрацуе выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На сцэне пакажуць фрагмент тэатралізаванага абраду, павіншуюць перадавікоў жніва.

У вёсцы будуць працаваць гандлёвыя рады, забавы для дзяцей. Пачатак свята а 15-й гадзіне.

На Мядзельшчыне раённае свята "Дажынкі" таксама пройдзе 30 жніўня. Пачнецца яно ў 11 гадзін. Святкаваць будуць у вёсцы Сваткі.

**Аддзел інфармацыі.**

УСПАМІНЫ

# Дэпутат Вярхоўнага Савета, што трапіў у чорны спіс КДБ

**МЯДЗЕЛ. Ветэран і дэпутат, які абараняў сялян ад функцыянераў, распавядае, як мясцовыя ўцякалі з-за вайны, як ўлада збірала грошы з бедных, і як ён кахаў – аднойчы і ўсё жыццё.**

Унікальны расповед самых значных падзей мінулага стагоддзя вачыма наўмысна забытага земляка **Вітольда Марача**. Гэту гісторыю пра тое, як сярод людзей застацца чалавекам, вы не прачытаеце больш нідзе.




Фота photochronograph.ru

Петраград ў 1917 годзе. На фота – дэманстрацыя работніц Пуцілаўскага артылерыйскага завода ў першы дзень Лютаўскай рэвалюцыі. Вітольду Марачу ў гэты час было дзевяць год.

## Ушанавалі памяць у роднай вёсцы

Сёлета ў роднай вёсцы у Куцькаўскай школе вучні падрыхтавалі вусны часопіс, прысвечаны памяці земляка-ветэрана, якому споўнілася б 107 год. Мерапрыемства зладзілі з нагоды 70-гадовага юбілею з пачатку вызвалення Беларусі ад фашыстаў.

У падрыхтоўцы вуснага часопіса прынялі ўдзел **Бажэна Мінчанкова**, **Паліна Марчанка**, **Паліна Малькевіч**, **Лізавета Марчанка**, **Алеся Дрозд**, **Вольга Лавец** і **Аляксандр Свідовіч**.

Але сабраць інфармацыю пра гэтага чалавека было зусім не проста. Каб прыгадаць, як мы даведаліся непаўторную гісторыю Вітольда Марача, трэба вярнуцца ў 1978 год.

## Як шукалі нашага героя

Члены гуртка "Валошкі" Куцькаўскай школы Мядзельскага раёна ў 1978 годзе сталі збіраць звесткі пра свой рэгіён. Жыхар вёскі Камарова **Генрых Марачэўскі** распавёў, што па суседстве з ім жыў чалавек, які двойчы выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, але як склаўся яго лёс далей, ніхто з мясцовых не ведае.

Высветлілі, што пасля 1951 года ён ніколі ў Куцьках не быў. Мы напісалі ў архіў. З архіва прыйшло паведамленне, што Вітольд Марач быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Свірскай выбарчай акрузе №432 Маладзечанскай вобласці. І ўсё.

Потым адшукалі ў газеце "Сталінскі шлях" Свірскага раёна за 2 лютага 1947 года яго картку біяграфію і партрэт. Пошукі працягваліся.

Аднойчы жыхар вёскі Куцькі Зыгмант Руды сказаў, што ў Вільні на кірмашы бачыў Марача, але не пагаварыў з ім, бо той імкліва растварыўся сярод людзей. Загадкавыя паводзіны публічнага чалавека заінтрыгавалі мяне.



Вітольд Марач, зямляк Івана Драўніцкага.

Раблю запыт у адрасное бюро Вільні. Адтуль далі яго адрас. Гэта было летам 1978 года.

І вось я на кватэры ў Вітольда Іванавіча. Гаспадар спачатку быў насцярожаны, але калі я паказаў пашпарт і сказаў аб мэце візіту, то супакоіўся. Пачалася размова, якая доўжылася больш за чатыры гадзіны.

**Я спісаў цэлы сшытак. Абсталяванне ягонай аднапакаёўкі было больш чым сціплае. На стале ляжаў стосік тэхнічнай літаратуры, томік Адама Міцкевіча на польскай мове, трылогія Якуба Коласа.**

Вітольд Іванавіч пака заў дэпутацкія пасведчанні. Разгортваю адно з іх, што ў белай вокладцы, і чытаю: "Марач Вітольд Іванавіч, дэпутат Свірскага раённага Савета па Засвірскай выбарчай акрузе Свірскага раёна Вілейскай вобласці".

На пасведчанні ў вокладцы чырвонага колеру за 24 сакавіка 1940 года ўказваецца, што Марач Вітольд Іванавіч з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, другое такое ж пасведчанне сцвярджае, што ад 9 лютага 1947 года ён таксама дэпутат ВС БССР.

## Страйкі ў Петраградзе

Вітольд Іванавіч Марач нарадзіўся 21 жніўня 1907 года ў Петраградзе, куды выехалі яго бацькі з Куцькаў у пошуках хлеба. На чатырох гектарах зямлі пражыць было немагчыма.

Бацька ўсё жыццё працаваў слесарам. Спачатку восем гадоў на заводзе ваеннага інжынера Аляксандра Цыгальскага. Заробкі ў бацькі былі нядрэнныя. Вітольд хадзіў у польскую школу для дзяцей каталікоў, закончыў тры класы.

*– У 1917 годзе ў Петраградзе пачаліся страйкі, – успамінаў Вітольд Іванавіч. – Застрайкавалі і рабочыя завода Цыгальскага. Страйкамаўцы не пускалі рабочых на завод.*

*А ў 1918 годзе адбылася рэвалюцыя. Гаспадар завода збег, завод зачыніўся. Знайсці працу стала складана. Харчовае забеспячэнне пагоршылася. У пошуках працы і хлеба мы выехалі на "хлебніцу" Украіну ў горадок Новагродаўка Данецкай вобласці, потым у Царыцын. Але ўсюды былі цяжкасці з працай і харчаваннем.*

*У 1919 годзе маці з трыма дзецьмі: са мной, Уладзіславам і Лявонам вярнулася ў Куцькі, а бацька ўладкаваўся слесарам у Вільні на чыгуначна-ліцейны завод П.Ф. Цымермана.*

*У 1920 годзе ён перайшоў працаваць на чыгуначную станцыю ў Вільні. У створаная ў тым жа годзе генералам Жэлігоўскім міні-дзяржаве Сярэдняя Літва эканоміка стала ажыўляцца, з'явіліся заробкі, бацька стаў нам дапамагаць.*

*Праз год ён пакінуў сям'ю.*

## Працаваў, каб здзейсніць мару і вучыцца

Каб пражыць, даводзілася ўсім цяжка працаваць. Ад 1921 года Вітольд Марач працаваў сезонным парабкам ў камароўскай пані **Марыі Старжынскай**, падзарабляў падзёншчыкам ў заможных сялян. Але заробкі ў чалавека без прафесіі былі нізкія. Вітольд вырашыў атрымаць прафесію каваля, таму што гэта самы запатрабаваны спецыяліст на вёсцы.

Каб здзейсніць сваю мару, ён за 40 пудоў жыта ад 1927 да 1928 года працаваў на гаспадарцы ў Клюшчанах. За гэты свой заробак у **Ігнацы Гутовіча** з вёскі Вараб'і тры гады вучыўся на каваля.

Дарэчы, Ігнацы, Ромусь і Яхім Гутовічы былі не толькі кавалямі, а і адмысловымі народнымі ўмельцамі: сталярамі, механікамі, умелі рамантаваць паравікі, дынамамашыны, майстраваць скрыпкі і гармонікі.

Засвоіўшы сакрэты кавальскай справы, заняцца кавальствам не мог: не меў ні кузні, ні патрэбнага кавальскага інструменту.

Каб здабыць сродкі на адкрыццё ўласнай кузні, уладкаваўся памочнікам каваля ў вёсцы Валодзькі, а потым яшчэ два сезоны працаваў на ўкладцы брукаванкі Вільня–Полацак. Шчапаў каменне, рабіў "бабышкі" спецыяльным молатам. Гэты молат ён гартаваў сам, каб інструмент быў цвёрды, але не крышыўся.

**Яго ўмельства заўважыў праараб, павысіў заробак і прызначыў на спецработу – гартаваць малаткі для рабочых-укладчыкаў.**

У 1936 годзе Вітольд адкрыў сваю кузню. З усяго наваколля з'язджаліся да яго кліенты, бо ўсё рабіў якасна і за памяркоўную плату. З'явіліся грошы. Дакупіў больш інструменту і набыў купіў ровар.

Праз год кузня згарэла. Пра яго ўмельства ўжо было вядома ў наваколлі. Таму 5 мая 1937 года дырэктар фабрыкі "Альхоўка" запрасіў Марача да сябе працаваць кавалём і слесарам.

**Іван ДРАЎНІЦКІ, Камарова.**

**У наступным нумары чытайце пра тое, як страйкавалі ў Альхоўцы, якая абстаноўка была напярэдадні вайны і як мясцовыя ўцякалі ад вайны.**

КАЛЯНДАР

**30 жніўня.** 210 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ходзькі (сапр. Барэйка, 1804 – 1891), беларускага паэта, фалькларыста, славіста, усходазнаўца. Ён першым з еўрапейцаў апісаў і прааналізаваў фальклор туркмен, эпас Кёр-Аглы, вершы туркменскіх паэтаў. Нарадзіўся ў мястэчку Крывічы, цяпер Мядзельскі раён.

***

**60 гадоў** з дня нараджэння (1954) Аляксандра Лукашэнкі, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

***

**1929 год.** 85 гадоў таму ва ўзросце 25 гадоў памёр ад тыфу Паўлюк Трус, беларускі паэт. Пахаваны на вайсковых могілках у Мінску.

***

**31 жніўня.** 120 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Грубэ (1894 – 1980), беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі. Старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР (1942 – 1944). Працаваў у галіне станковай сюжэтнай кампазіцыі, рэльефу, манументальнай пластыкі. Адна з вядомых работ – "Раб", а таксама "К. Каліноўскі", "Плач", іншыя.

***

**1835 год.** Памёр Людвік Міхаіл Пац, вайсковы дзеяч, удзельнік паўстання 1830 – 1831 гадоў.

***

**1 верасня.** 80 гадоў з дня нараджэння Ліі Салавей (1934), беларускай фалькларысткі. Кандыдат філалагічных навук. Складальніца тамоў "Балады" (кн.1–2, 1977–78), "Веснавыя песні (179), "Валачобныя песні" (1980), "Жаніцьба Цярэшкі (1993) са збору "Беларуская народная творчасць". Нарадзілася ў вёсцы Навасёлкі Мядзельскага раёна.

***

**1939 год.** 75 гадоў таму германская армія напала на Польшчу, пачалася Другая сусветная вайна.

***

**1990 год.** У Мінску адчынілася першая гімназія імя Францішка Скарыны.

***

**2001 год.** У Маладзечне ўстаноўлены помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму.

***

**1431 год.** Падпісанае перамір'е вялікага князя літоўскага з Каралеўствам Польскім, паводле якога апошняе прызнала Свідрыгайлу вялікім князем і ўладаром усіх зямель княства.

***

**3 верасня.** 1927 год. Нарадзіўся Алесь Адамовіч, пісьменнік, грамадскі дзеяч.

***

**4 верасня.** 155 гадоў з дня нараджэння Браніслава Эпімаха-Шыпілы (1859 – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

НАШ РЭГІЁН

# У вёсцы на шэсць жыхароў асвяцілі крыж і крыніцу

**МЯДЗЕЛ. "Чый гэта ўнук будзе?" – гадалі бабулькі. І такіх загадак для іх у суботу было нямала.**

У Карабаны ля Занарачы на свята вёскі прыехала багата людзей. Налічылі аж пад дзевяноста.

Яны шчыра віталіся са старымі знаёмымі, цалаваліся. Бабулькі тут жа падлічвалі, каму ўжо колькі год. І дадавалі: "Хай Божанька табе дае яшчэ пажыць".

Прыехалі сюды не толькі ўраджэнцы вёскі. Спадарыня **Алена** крыху працавала ў Карабанах пасля заканчэння тэхнікума. Яна кажа:

– Як жа не наведаць мясціны, дзе працоўнае хрышчэнне прымала.

Нехта з прыехаўшых жыве не так далёка, а хтосьці дабіраўся з далёкіх мясцін. **Зінаіда Рошчанка (Януць)** прыехала з Брэста:

– Я жыла тут да 15 год. Вёска была невялікая, у 60-х гадах каля 40 хат было. Але і не глухая. Людзі працалюбівыя жылі – не было гультаёў.

А пасля навучання ў Мінску Зінаіда паехала па накіраванні ў Брэст на працу.

– На радзіму заўсёды будзе цягнуць, пакуль жывыя. Калі сказалі, што будзе такое свята, так захацелася ўбачыць нашых людзей. Многія прыехалі, я некаторых і не пазнаю, бо гэта нечыя дзеці. Прыемна, што яшчэ засталіся старажылы, што жывыя, здаровыя. І нізкі паклон арганізатарам свята.

## Калі раніцай пасварацца, вечарам чарку вып'юць

Ініцыятарам свята стаў ураджэнец вёскі, колішні старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі, а цяпер пенсіянер **Зянон Ломаць**.

– Была задача – прыцягнуць у вёску нашчадкаў, каб яны ведалі, дзе іх продкі жылі. З такім разлікам, каб дарослыя выхадцы з вёскі прывезлі сюды дзяцей і ўнукаў. Каб паказалі, расказалі, што гэта за вёска, на могілкі схадзілі.

Свята невыпадкова прызначылі на 23 чэрвеня. Бо ў старыя часы, менавіта ў суботу, перад рэлігійным святам Спажа, прыязджаў у вёску святар і асвячаў дамы.

– Мае дзяцінства, юнацтва прайшлі ў Карабанах. Жыў у вёсцы да 22 год, адразу пасля школы працаваў тут, – прыгадвае Зянон Ломаць. – Жыла вёска весела, прыгожа, цікава. Калі нават з раніцы пасварацца суседзі з-за мяжы ці сенакосу, то да вечара чарку самагонкі вып'юць, абнімуцца.

Шмат раней людзей тут жыло. Праз вёску ішла дарога Вільня-Свір-Занарач і далей на Мінск. Хадзіла грузавое таксі, людзей набівалася як селядцоў у бляшанку. А зараз у вёсцы толькі шэсць жыхароў.



Бабулі з Карабанаў і суседняй вёскі нясуць кветкі да крыжа.

## Да крыжа ішлі ў новых хустках

Свята гэта для Карабанаў было адметным. Да яго тут паставілі вялікі крыж на ўездзе і добраўпарадкавалі крыніцу. Для гэтага шмат высілкаў прыклалі таварыства "Занарацкі" пад кіраўніцтвам **Пятра Каўруса**, Занарацкі сельвыканкам (старшыня – **Уладзімір Зелянкевіч**). Дапамагалі вяскоўцы і многія іншыя.

У навюткіх, расквечаных кветкамі хустках збіраліся да крыжа бабулі. Хто з адной кавенькай ішоў, хто з дзвюма. Асвяціў крыж айцец **Анатоль** з Занарацкай царквы.

## "Ой, халодная"

– Вакол нашай вёсачкі – шмат крыніц, – кажа Зінаіда Рошчанка. – Як хадзілі сена касіць ці на іншыя працы, гэтыя крынічкі ў спякоту нас выратоўвалі. Вада тут добрая!

Ураджэнцы вёскі радаваліся, што ў зарослым раней месцы з'явілася добраўпарадкаваная крыніца.

Пасля асвячэння крыніцы вяскоўцы выстраіліся папіць вады. "Ой, халодная!" – дзяліліся.

Хто і з сабой браў вады з роднай вёскі. А неўзабаве яшчэ адну крыніцу каля Карабанаў упарадкуюць.

## "Як расцалавалі мяне жанчыны ўсе"

А потым усе сабраліся ля колішняй крамы. Распавядалі пра гісторыю вёскі, хвілінай маўчання памянулі загінулых у вайну. Успаміналі, кім ганарыцца вёска. Шчыра пляскалі ў далоні артыстам з Занарачы.

На пачэсным месцы сядзелі старажылы.

– Самыя "галовы" мы ў вёсцы, – усміхаюцца бабулі **Соня** і **Маня**. І тлумачаць. – Самыя старыя: адной – 83, другой – 84 гады.

Узгадвалі яны тыя часы, як поўныя хаты людзей было ў вёсцы, "як збяромся, у хаце і месца не хапала дзе сесці". А на пытанне: "Ці сумуеце па тым часе?", па-філасофску заўважалі:

– Ну, ужо ж не вернеш. Што сышло, тое сышло.

Побач можна было пабачыць мноства старых фатаграфій. Пазнавалі сябе і родных: "А гэта ж дзядзька Міша!"

Прыехала ў сваю вёску на свята і бабуля **Надзя**. Апошнім часам яна жыве не ў Карабанах.

– Так рада, што трапіла сюды. Думала, што ж тут будзе, колькі тых людзей у вёсцы засталося. А стольки сабралася! Сама больш – абстаноўка спадабалася. Як расцалавалі мяне жанчыны ўсе, як усе добрым словам успамінаюць.

Неаднойчы гучала пажаданне, каб свята стала традыцыйным. Ужо і час дакладны вызначылі – у 10 раніцы ў суботу перад Спажой, якая святкуецца 28 жніўня.

...І, мяркую, пастараюцца сабрацца. Бо гэты прыезд у родную вёску для многіх быў вельмі важны. Напоўніцу гэта адкрылася, калі адна жанчына дзялілася ўражаннямі пра свята і так расчулілася, што ледзьве не заплакала.



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail:
alvy@tut.by

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## За парушэнні дзяцей пакараюць бацькоў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 25 жніўня да 5 верасня Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць спецыяльные комплексные мерапрыемства пад дэвізам "Увага! Дзеці".

Падчас яго кіроўцы павінны ездзіць у светлы час сутак з уключаным святлом бліжніх фараў. За невыкананне гэтага пункта – штраф дзве базавыя велічыні (300 тысяч рублёў).

У межах рэйду звернуць увагу на парушэнне правілаў дарожнага руху дзецьмі. За іх недысцыплінаванасць бацькоў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

За 7 месяцаў 2014 года ў Беларусі праз ДТЗ загінула 20 дзяцей, 227 атрымалі траўмы і калецтвы.

## Шукаюць відавочцаў аварыі, у якой загінуў матацыкліст

**МАЛАДЗЕЧНА.** 7 жніўня каля дзевяці гадзін вечара па вуліцы Заслонава адбылася аварыя.

Кіроўца матацыкла "Мінск-Крос" выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з машынай Зіл-130Г. Матацыкліст памёр на месцы здарэння.

Кіроўцаў і відавочцаў аварыі просім звяртацца ў ДАІ Маладзечанскага РАУС у кабінет 12 ці 18 або па тэлефонах: **(80176) 74-53-40, 74-53-45, 74-68-41, 102.**

## Дзень бяспекі дарожнага руху

29 жніўня Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці праводзе адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Бяспечная дарога ў школу – задача дарослых!".

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ,**
**начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, маёр міліцыі.**

АДУКАЦЫЯ

# Якой бачаць школу вучні 1 і 11 класаў

*Праціяг. Пачатак на 1-й старонцы*

**МАЛАДЗЕЧНА. Першакласніца Юля Канапелька расказвае, чаму ў трэцім класе будзе гора. А старшакласнік Улад Воўк – дзеля чаго ён ходзіць у школу.**

## Не ведаю, куды паступаць

**Улад Воўк** сёлета скончыць 11 "А" ваенна-патрыятычны клас СШ №14. Хлопец прызнаецца, што яму не вельмі хочацца ў школу. Больш жадання ўбачыць сяброў, па якіх засумаваў за лета.

– Можа, і будзе цікава вучыцца, але толькі месяц. Потым гэта ўвойдзе ў норму, і цікавасць знікне, – адзначае малады чалавек.

Сёлета многія яго сябры-выпускнікі не паступілі ва ўніверсітэты. Гэта выклікала жаданне сур'ёзна ўзяцца за вучобу, прыкласці намаганні, каб пасля паступіць.

У першым класе ён марыў стаць навукоўцам, бо вельмі падабалася матэматыка, ці футбалістам, пасля перакладчыкам. Пакуль хлопец не ведае, куды будзе паступаць, кім будзе.

– Напэўна, гэта будзе нешта звязанае з фізікай, матэматыкай. – гаворыць Улад. – Я ж у фізіка-матэматычным класе вучуся.

Рыхтавацца да паступлення дапаможа рэпетытар. Аднак пакуль адзінаццацікласнік яго не шукаў.

## Набыў да школы пару сшыткаў

Асаблівага хвалявання перад першым верасня ў хлопца няма. Цікава, як хто змяніўся за лета.

Улад асабліва не рыхтаваўся да школы:

– Я набыў сабе пару сшыткаў, алоўак, ручкі, – кажа ён. – Нешта засталося з мінулага года. Гэта першакласнікаў рыхтуюць па спісе, мы ўжо дарослыя. Учора мой клас атрымліваў падручнікі, я не мог прыйсці, таму падручнікаў пакуль няма. Атрымаю пасля, і на мяне хопіць!

У хлопца не стаяла пытання з набыццём школьнай формы – яны ходзяць у ваеннай. Трэба толькі набыць белую сарочку.

## Настаўнік гісторыі "разыгрывае" дзясяткі

Хлопец будзе сумаваць па сваёй школе, па аднакласніках, па настаўніках:

– Кожны настаўнік у школе адметны. Але мне б хацелася вылучыць настаўніка гісторыі **Валяр'яна Гайдуля.** З ім мы не завучваем матэрыял, а разумеем яго. Толькі так ён застаецца ў памяці. Настаўнік часам правярае, што засталося ў нашых галовах з матэрыялу мінулых гадоў. Напрыклад, аднойчы ён "разыгрываў" дзясяткі. Задаў вельмі складанае пытанне і сказаў: "Хто адкажа, атрымае 10". Ахвотнікаў было многа, але дзясяткі ніхто не атрымаў. Пасля было цікава, які ж адказ. Таму дома многія з нас "пераварочвалі" інтэрнэт, каб знайсці яго.

Хлопец дакладна ведае, навошта трэба школа – для таго, каб развіць мысленне, каб быць дасведчаным па многіх прадметах, мець свой пункт гледжання. І пасля атрымаць добрую спецыяльнасць.

Хлопец прызнаецца, што будзе сумаваць па сваіх аднакласніках, асабліва па **Іллю Манькоўскаму**, якога ў школе завуць проста Манёк, **Паўлу Вяжэвічу**, ці проста Вяжы.

Сваім аднакласнікам ён жадае перад навучальным годам цвёрдымі крокамі дайсці да канца, паступіць у ВНУ, а настаўнікам – цярпення.

**Галіна СІНІЦА.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць віноўніка аварыі каля дзіцячай бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду, 20 жніўня, прыблізна ад 12 да 14 гадзін адбылася аварыя насупраць уезда ў двор дзіцячай бальніцы.

Невядомы кіроўца на нявызначаным транспартным сродку наехаў на чорны "Нісан-Прымера", хэтчбэк. Кіроўца знік з месца здарэння.

Відавочцаў аварыі просім патэлефанаваць па нумары (8029) **616-92-71** (Велком).

**Паводле паведамлення Следчага камітэта.**



Сучасная карта часткі горада Валожын.



Карта часткі горада Валожын, якую нарысаваў Лазар Мельцар.

# Паказанні жыхара гета на допыце 1971 года

## Лазар Мельцар расказвае пра расстрэлы ў валожынскім гета

*Заканчэнне. Пачатак у №34*

**ВАЛОЖЫН. Да вайны ў Валожыне жыло больш за дзве тысячы яўрэяў. Большасць з іх знішчылі фашысты. Публікуем серыю матэрыялаў, якія грунтуюцца на сведчаннях відавочцаў трагедыі: паказаннях жыхароў гета, блізкіх ахвяр рэжыму, нямецкіх ваеннапалонных.**

### Змог збегчы

У будынак кавальскага цэха я быў дастаўлены разам з бацькам Мельцарам Сямёнам, сястрой Розай і іншымі сваякамі. Бацька мне настойліва раіў пры першай магчымасці бегчы. І такая магчымасць была.

З дапамогай бацькі я непрыкметна пранік на дах і збег. Са мной разам збег Млот Міхаіл Абрамавіч. З кавальскага цэха на дах таксама забраўся Перскі, хлопчык гадоў 14 ці 15, але ён быў заўважаны немцамі і забіты на даху. Імя Перскага я не памятаю. Млот у цяперашні час жыве ў Валожыне.

Што тычыцца майго бацькі, сястры і іншых сваякоў, усе яны 10 мая 1942 года былі расстраляныя. Сярод расстраляных было шмат пажылых людзей, жанчын і дзяцей. Гітлераўцы нікога не шкадавалі. Расстрэльвалі нават немаўлят.

Правёўшы расправу, дом з трупамі немцы спалілі. Яны ўсяляк імкнуліся прыхаваць сляды злачынстваў, таму знішчалі нават трупы. Я бачыў, як гарэў дом з трупамі.

Немцаў, якія чынілі расправу над яўрэямі Валожына, я бачыў, але нікога з іх не ведаў. Прозвішчы і імёны назваць не магу. Для расправы над яўрэямі ў Валожын прыязджалі немцы з Вілейкі. Немцаў было шмат, але якая колькасць, мне сказаць цяжка.

Прыязджалі яны, як казалі, на аўтамашынах. Мне запомнілася, што немцы былі ў вайсковай форме зялёнага колеру. У салдатаў былі пілоткі, у афіцэраў – фуражкі. На галаўных уборах гітлераўцаў былі знакі з выявамі чэрапа з перакрыжаванымі касцямі. Такіх немцаў мы называлі гестапаўцамі.

### Хто застаўся ў памяці

У маёй памяці захаваліся некаторыя асобы. Я, напрыклад, запомніў немца, які знаходзіўся з некалькімі салдатамі каля кулямёта, устаноўленага ў некалькіх метрах ад дзвярэй будынка кавальскага цэха.

Гэта быў немец сярэдніх гадоў, поўны, апрануты ў афіцэрскую форму. На галаве была фуражка з выявай чэрапа. Кулямёт стаяў на стале і ствол накіраваны ў бок дзвярэй. На тым стале стаяла бутэлька, напоўненая вадкасцю.

Мне згадваецца, што немцы, якія знаходзіліся каля дзвярэй кавальскага цэха, выпівалі. Акрамя кулямёта і бутэлькі на стале быццам яшчэ нешта было, але што менавіта, не памятаю.

Яшчэ ў будынку кавальскага цэха немцы некалькі разоў стралялі ў грамадзян. Я не бачыў, з якой зброі стралялі, але ў будынку было шмат забітых і параненых.

### Трэці выпадак расстрэлу

Трэці выпадак расстрэлу савецкіх грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці ў Валожыне праводзіўся ў верасні 1942 года. Гэта быў апошні расстрэл. На гэты раз гітлераўцы расстралялі больш за трыста пяцьдзясят чалавек.

Расстрэльвалі ў павеці, размешчанай ў канцы вуліцы Кастрычніцкай. Каму належала павець, я не памятаю. Аднак мне добра запомнілася, што ў гэтай павеці да вайны 1941 года і ў першы год нямецкай акупацыі жанчыны апрацоўвалі льнотрасту.

Памятаю, што расстрэльвалі ў нядзелю. Я тады схаваўся ў схованцы на тэрыторыі гета, а ноччу збег.

Як расстрэльвалі, не бачыў. Для расстрэлу прыязджалі немцы з Вілейкі. Перад расстрэлам яшчэ ў суботу гета было абкружанае і нікога не выпускалі. Тых, хто спрабаваў збегчы, расстрэльвалі. Расстрэл яўрэяў пачаўся ў нядзелю рана раніцай.

Учыніўшы расправу, павець з трупамі немцы спалілі.

Кавальскі цэх райпрамкамбіната стаяў на вуліцы Кастрычніцкай і прымыкаў да ракі Валожынкі. Ён быў пабудаваны перад вайной з цэглы, дах – з чарапіцы. Перад тым як вылезці на дах, чарапіцу разбіў Млот з маёй дапамогай.

З-за таго, што пасярэдзіне будынка дах быў прыўзняты, нас, калі мы забраліся на яго, не заўважылі. Уцякалі мы праз Валожынку. Немцы ж з аўтаматамі стаялі ля дзвярэй па вуліцы Кастрычніцкай.

**Пытанне: Патлумачце, дзе яўрэйка Роза была знойдзеная забітай?**

Адказ: З-за таго, што яўрэяў забівалі часта і ў розных месцах, цяпер я не магу дакладна сказаць, дзе менавіта знайшлі яе труп.

**Пытанне: Вы можаце назваць прозвішчы немцаў, якія размяшчаліся ў Валожыне?**

Адказ: Не, не магу. Прозвішчаў немцаў я не ведаў.

**Пытанне: Хто з мясцовых жыхароў з'яўляецца відавочцам расстрэлу яўрэяў у 1941 і 1942 гадах?**

Адказ: Такіх грамадзян я назваць не магу.

**Пытанне: Ці вядома вам, хто займаўся пахаваннем расстраляных яўрэяў на стадыёне?**

Адказ: Іх хавалі яўрэі, узятыя з гета, у тым ліку мой бацька і Гельман Рубін Лазаравіч.

**Допыт закончаны ў 20 гадзін 20 хвілін.**

Пратакол допыту па маёй просьбе мне прачытаны следчым, мае паказанні запісаныя правільна, заўваг я не маю.

Дапытаў: ст. следчы КДБ пры СМ БССР маёр (Шыляеў)

Верна: памочнік пракурора Беларускай ССР саветнік юстыцыі (Шэўчык)

**Падрыхтаваў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Дзякуем старшаму навуковаму супрацоўніку Вілейскага краязнаўчага музея Вользе КОЛАСАВАЙ за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.**

# Робім зарадку на працоўным месцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі большасць часу на працы вы праводзіце ў офісе, то стомленая спіна ці зацёкшая шыя – знаёмыя для вас сімптомы.**

Пяцiхвілінны перапынак для размінкі мышцаў прыдасца кожнаму офіснаму работніку. Якія практыкаванні можна рабіць, маючы ў сваім распараджэнні два квадратныя метры, стол і крэсла?

Адказ карэспандэнтка "РГ" шукала разам з маладзечанскімі інструктарамі па аэробіцы фітнесцэнтра "Аса", што ў гандлёва-забаўляльным цэнтры "Тройка", **Таццянай Хаткевіч** і **Аленай Зыранавай**.

 Яшчэ на пачатку размовы інструктары зазначаюць: для таго, каб якасна размінаць мышцы, трэба ўсё ж выходзіць з офіса і ісці ў спартзалу. Маючы вольную прастору, неабходныя спартыўныя снарады і трэнера, вы куды лепш папрацуеце са сваім целам.

Калі ж выбару ў вас няма, можна пачаць з невялікіх практыкаванняў на працоўным месцы.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Тыя, хто ўпэўнены ў сваёй фізічнай форме, могуць рабіць адцісканні ад крэсла. Паказвае інструктар па аэробіцы Таццяна Хаткевіч.

## Размінаем шыю

Ад сядзення перад камп'ютарам стамляецца шыя. Мышцы прывыкаюць трымаць галаву на ўзроўні манітора і зацякаюць.

✓ Апусціўшы плечы, паварочвайце галаву ўправа і ўлева, уперад і назад. Рабіць практыкаванні трэба павольна, паколькі напружаныя мышцы не падрыхтаваныя да рэзкіх рухаў. Не імкніцеся апусціць галаву як мага ніжэй – гэта можа нашкодзіць. Апускаючы галаву назад, прытрымлівайце шыйныя пазванкі пальцамі.

## Не даём вырасці жывату

Самае галоўнае для офіснай размінкі – устаць з месца. Ужо тады кроў пачне цыркуляваць па арганізме. Некаторыя практыкаванні можна рабіць і стоячы, і седзячы.

– Падчас сядзення за сталом напружваюцца мышцы жывата, – кажа Алена Зыранава. – Тазавая частка не рухаецца, у выніку ў жанчын пачынае паступова расці жывоцік.

✓ Сядзіце на крэсле, спіну трымайце прама, рукамі ўпірайцеся ў крэсла. Па чарзе альбо разам падымайце сагнутыя ногі на 15-20 см.

✓ Вядомая са школы "васьмёрачка": плаўныя кругавыя рухі тазам разгоняць кроў па тулаве. Практыкаванне супрацьпаказанае тым, у каго ёсць грыжа.

✓ Стоячы за спінкай крэсла і абапіраючыся на яе рукамі, падымайце па чарзе выпрастаныя ногі ўбок і назад. Трымаючы рукі на спінцы крэсла, пападымайцеся на дыбачкі, а таксама зрабіце некалькі прысяданняў, разводзячы калені.

## Ратуем спіну ад грыжы

– Калі мы сядзім перад камп'ютарам у адной і той жа позе, пазваночнік быццам "застывае", – працягвае інструктар. – Яго трэба абавязкова варушыць. Ад сціскання пазванкоў міжпазванковая вадкасць перастае паступаць да іх. Гэта можа стаць прычынай грыжы.

✓ Седзячы на крэсле, трымайце ногі і таз нерухомымі, а корпус паварочвайце направа і налева, абхопліваючы рукамі спінку крэсла. Такія ж скручванні спіны можна рабіць і стоячы.

✓ Устаўшы з крэсла, зрабіце нагінанні тулава ва ўсе бакі. Прагінаючыся назад, прытрымлівайце спіну, упіраючы рукі ў вобласць крыжа.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Адмысловыя "скручванні" пазваночніка дапамагаюць разагнаць кроў па целе.

Фота Настасі РОЎДЫ.

Размяць ногі можна пры дапамозе прысяданняў. Практыкаванне паказвае інструктар па аэробіцы Алена Зыранава.

## Не забываемся пра кісці рук і ног

– Ад працы за камп'ютарам застой адбываецца яшчэ і ў пальцах рук, – заўважае Алена Зыранава. – Застой у пальцах дрэнна ўздзейнічае на пазваночнік.

✓ Счапіўшы кісці рук у замок, рабіце імі кругавыя рухі ў розныя бакі.

✓ Вазьміце ў руку доўгую лінейку, узяўшы яе за канец. Перабіраючы пальцамі і не дапамагаючы другой рукой, перайдзіце на другі канец лінейкі.

✓ Калі ёсць магчымасць разуцца, зніміце абутак і пакатайце па падлозе маленькі мячык ці проста алоўкі. Лёгкі масаж усіх актыўных кропак на стопах добра ўздзейнічае на ўвесь арганізм. Карысна таксама пакатаць аловак паміж далонькамі.

## "Выходзьце з офісаў і прыходзьце на расцяжку!"

Вядома, гэтыя практыкаванні – простая размінка для мышцаў, а не іх накачванне.

На занятку варта прыходзіць у спартзалу, дзе інструктар падбярэ практыкаванні, неабходныя менавіта вам.

– Ведаеце, некаторыя нашы наведнікі, якім за шэсцьдзесят, дадуць фору моладзі! – дзеляцца ўражаннямі інструктары. – Жанчыны ва ўзросце на шпагаты садзяцца.

Сучасным моладзі карысным будзе стрэйчынг – расцяжка звязак і мышцаў. Інструктары фітнесцэнтраў прапануюць заняткі па стрэйчынгу, якія дапамагаюць умацаваць звязкі і суставы.

– Ніякі офіс не параўнаецца па эфектыўнасці заняткаў са спартзалай, – робяць выснову інструктары.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



● НАВІНЫ

## "Смаргонь" абыграла юнацкую зборную Беларусі

**СМАРГОНЬ.** У Мінску 24 жніўня футбольны клуб "Смаргонь" правёў таварыскі матч з юнацкай зборнай Беларусі (U-19).

Гульня прайшла ў межах падрыхтоўкі да матча чэмпіянату з "Бярозай-2010".

Смаргонцы выйгралі з лікам 4:1. У матчы не прымала ўдзел чацвёрка гульцоў асноўнага складу клуба.

– У першым тайме юнацкая зборная першай адкрыла лік, але **Павел Шмігера** далёкім ударам яшчэ да перапынку здолеў аднавіць раўнавагу, – расказаў прэс-аташэ ФК "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**. – У другім тайме **Максім Яблонскі** з перадачы **Аляксандра Сямёнава** вывеў "чырвона-чорных" наперад.

**Аляксей Сквярнюк** замкнуў прастрэл з флангу і зрабіў лік 3:1. Да буйнога паваліцы разрыў у ліку **Юры Мархель**. Канчатковы лік мог быць яшчэ большы: два разы перакладзіна ратавала вароты юнацкай зборнай.

## Адзіная перамога – за "Маладзечна-ДЮСШ-4"

**МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА.** Маладзечанцы адзіныя з рэгіёна набралі ачкі ў чарговых гульнях чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" 23 жніўня дома абыграла "СМІаўтатранс" з лікам 4:2. Хет-трык на рахунку **Новікава**, яшчэ адзін гол забіў **Чабрыцкі**.

Калі ў мінулым туры "Забудова-2007" забіла сем галоў, то ў гэтым столькі ж прапусціла. Каманда з Чысці прайграла ў гасцях ФК "Барысаў" 3:7.

"Валожын-2010" зноў не з'явіўся на гульню – на гэты раз на дамашнюю з "Жодзінам-2007". Ізноў тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3.

"Вілія" праводзіла матч у нядзелю ў гасцях у Чэрвені і саступіла мясцоваму "Коласу". Лёс сустрэчы вырашыў адзіны гол.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" па-ранейшаму лідзіруе ў групе "А". "Забудова-2007" апусцілася на шостае, "Вілія" – на сёмае месца. "Валожын-2010" займае дзясятае.

## Дзве гульні – два разгромы

**ВІЛЕЙКА.** Багаты на галы тур выдаўся 23 жніўня ў чэмпіянаце Вілейскага раёна па футболе. "Мехатроніка" разграміла "Вязынь" 7:0. "Шылавічы" без шанцаў прайгралі "Чурлёнам" 0:8, паведаміў старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ

# Гармата надзейней за сабаку

**ВАЛОЖЫН. У гаспадарцы жыхара вёскі Доры Ігара Саковіча непатрэбных рэчаў няма. Пра гэта сведчыць і гармата, якая сустракае гасцей на даху склепа ля ўвахода ў двор.**

– Гэта штука будзе надзейней за сабаку, – жартуюць жыхары лецішча.

– А гаспадара дома няма, – папяраджвае цешча спадара Ігара **Галіна Кенць**, – але я і сама магу распавесці пра ўсе захапленні зяця. Насамрэч, гэта не зусім гармата. Проста мы яе так называем. Колы да яе Ігар прымацаваў ад воза. А само жалязззё знайшоў на гарышчы.

Дом, у якім летам праводзяць час гаспадары, належаў бацькам цешчы Ігара.

– Калі пачалі рабіць рамонт, – працягвае спадарыня Галіна, – зяць катэгарычна забараніў выкідаць старыя рэчы. На гарышчы знайшлі і кросны, і нейкія начоўкі. У гаспадарцы спатрэбіцца ўсё, кажа зяць. У сені ўжо паставілі старую сячкарню. Раней ёй рэзалі сена, салому, каб карміць свойскую скаціну. Цяпер яна – элемент інтэр'ера, як кажуць мае маладыя.

Дапамагае Ігару даваць новае жыццё старым рэчам і сын Ілля:

– Мы з татам шмат чаго майструем разам. Ён будаўнік, таму можа многае зрабіць сваімі рукамі. Напрыклад, ён з маёй дапамогай зрабіў паліцу для маёй калекцыі гадзіннікаў. Я вырашыў збіраць гадзіннікі, таму што яны не проста прыгожыя, але і карысныя. Калі трэба і час пакажуць, і надвор'е. А што толку з машынак? Толькі месца займаюць.

Акрамя гадзіннікаў, Ілля ўсур'ёз займаецца шахматамі. Мае другі юнацкі разрад. І марыць хлопчык аб тым, што аднойчы зможа зрабіць свае шахматы. Унікальныя і непаўторныя.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok @gmail.com



Фота Наталлі ТУР.

Ілля Саковіч з Дораў збірае гадзіннікі, а не машынкі. А дом у яго ахоўвае гармата, а не Шарык.



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | 5 | | | 2 | | 3 |
| | | | | | | | 5 | |
| | 5 | 1 | | 2 | | | 9 | |
| | | | | | 1 | 5 | 2 | |
| 4 | | 9 | 7 | | 5 | 8 | | 1 |
| | 1 | 7 | 2 | | | | | |
| | 4 | | | 1 | | 6 | 8 | |
| | 9 | | | | | | | |
| 1 | | 6 | | | 8 | | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 6 | 4 | 5 | 7 | 9 | 2 | 1 | 3 |
| 9 | 3 | 2 | 1 | 6 | 4 | 7 | 5 | 8 |
| 7 | 5 | 1 | 8 | 2 | 3 | 4 | 9 | 6 |
| 6 | 8 | 3 | 4 | 9 | 1 | 5 | 2 | 7 |
| 4 | 2 | 9 | 7 | 3 | 5 | 8 | 6 | 1 |
| 5 | 1 | 7 | 2 | 8 | 6 | 9 | 3 | 4 |
| 2 | 4 | 5 | 3 | 1 | 7 | 6 | 8 | 9 |
| 3 | 9 | 8 | 6 | 4 | 2 | 1 | 7 | 5 |
| 1 | 7 | 6 | 9 | 5 | 8 | 3 | 4 | 2 |

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Нястрымныя 3**" (ЗША, Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 год)
29, 30 жніўня – у 21:00
31 жніўня – у 18:30
1 верасня – у 21:00
2 верасня – у 18:30
3, 4 верасня – у 21:00

Прэм'ера! Анімацыйная камедыя **"Самалёты: Агонь і вада"**, 3D (ЗША, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
4 верасня – у 17:00

Анімацыйная камедыя **"Як прыручыць дракона 2"**, 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
31 жніўня – у 14:00
Кошт білета: 40 000 рублёў

Крымінальны трылер, баявік "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**", 3D (ЗША, 2014, для гледачоў ад 18 год)
30 жніўня – у 18:30
31 жніўня – у 21:00
2 верасня – у 21:00
Кошт білета: 50 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**", 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 16:30
30 жніўня – у 14:30
1 верасня – у 10:30, 15:00
Кошт білета: 30 000 рублёў

Трылер, баявік "**Насустрач шторму**" 2D (ЗША, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 жніўня – у 16:30
1 верасня – у 19:00
4 верасня – у 19:00
Кошт білета: 45 000 рублёў

Фантастычны баявік, прыгоды "**Чарапашкі – ніндзя**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 жніўня – у 18:30
31 жніўня – у 16:00
3 верасня – у 18:30
Кошт білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
29 жніўня – у 16:00
30, 31 жніўня – у 15:00
Кошт білета: 15 000 рублёў

Меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, 2013, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 год)
29-31 жніўня – у 19:00
2, 3 верасня – у 21:30
4 верасня – у 19:00
Кошт білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя "**Сямейка вампіраў**" (Германія, 2012, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 жніўня -1 верасня – у 21:30
2, 3 верасня – у 19:30
4 верасня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Гэтай раніцай у Нью-Ёрку**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29, 30, 31 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Цудоўныя стварэнні**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29, 30, 31 жніўня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 жніўня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Цётачкі**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3, 4 верасня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Пітэр. Лета. Каханне**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога )
3, 4 верасня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП (29 ЖНІЎНЯ-4 ВЕРАСНЯ)



**Авен.** Стрымлівайце сябе ад імпульсіўных учынкаў і неразумных эмоцый. Памятайце пра тое, што трэба "каваць жалеза, пакуль яно гарачае".



**Цялец.** Ваш шчаслівы дзень тыдня – пятніца, асабліва 6, 12, 18, 24 і 30 чыслы. Пятніцай кіруе Венера. Усё, што зробіце ў гэты дзень, будзе мець вялізны эфект.



**Блізняты.** Дом для вас цяпер важней за работу і кар'еру. Прыкладзіце рукі да таго, каб ваша жыллё было абстаўлена прыгожымі рэчамі і прадметамі ўжытку.



**Рак.** Ваш самы шчаслівы дзень – панядзелак. Ім кіруе эмацыйны і ўражлівы Месяц. А ён кіруе ўсімі сферамі вашага жыцця. Самыя важныя справы вырашайце ў панядзелак.



**Леў.** Рабіце тое, што лічыце патрэбным, ганіце тое, што маеце, не забывайце дапамагаць менш удачлівым.



**Дзева.** Усё, што зробіце ў сераду, будзе мець ашаламляльны эфект. Бо ваш дзень – серада, асабліва 5, 10, 12, 15, 25 чыслы. Ёй кіруе Меркурый.



**Шалі.** Шчаслівы дзень тыдня для вас – пятніца, асабліва 6, 12, 18, 24 і 30 чыслы. Пятніца – дзень міру і справядлівасці. Менавіта ў гэты дзень пачынайце новыя праекты. Удача будзе з вамі. Толькі не канфліктуйце.



**Скарпіён.** Калі трэба палепшыць жыццё – аддавайцеся марам. Уяўляйце ўсё, што хочаце.



**Стралец.** Настаў ваш зорны час. Вам будзе ўдавацца практычна ўсё. Ваш дзень чацвер – 3, 12, 21, 30 чыслы.



**Казярог.** Шукайце скрыты сэнс ва ўсім, што адбываецца. Ваш дзень – субота, асабліва чыслы 1, 5, 9, 11. Гэтым днём кіруе Сатурн – найвялікшая з планет. Не сварыцеся, не стрыжыце валасы і не мыйце бялізну. Для ўсяго іншага – зялёнае святло.



**Вадалей.** Галоўнае для вас, каб словы не разыходзіліся са справамі. Тады любыя жыццёвыя ці прафесійныя калізіі вам не страшныя. Ваш дзень – субота.



**Рыбы.** Ваш шчаслівы дзень – чацвер, асабліва 7, 14, 21, 28 чыслы. Гэтым днём кіруе Юпітэр, які шчодра адорвае людзей міласэрных. Спрыяе аптымістам, людзям высокай маралі. Ён адказвае за грошы. Яны прыйдуць да таго, хто працуе з радасцю і задавальненнем.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень


## НАДВОР'Е

**30 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +17 | | +11 +18 | | +12 +15 | | +10 +17 | |
| | 740 | → 5 | 742 | ↘ 4 | 744 | ↙ 5 | 745 | ↙ 5 |
| Вільня | +10 +17 | | +9 +16 | | +10 +16 | | +9 +16 | |
| | 748 | → 5 | 750 | ↑ 1 | 752 | ↙ 4 | 753 | ← 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.17
Захад 20.08
Даўжыня дня 13.51

Усход 11.33
Захад 21.40
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- Трэці, малы Спас (29 жніўня) – святкаванне заканчэння жніва. Прырода ўсё больш упэўнена паварочвае на зіму. “Па Спасе трымай рукавіцы ў запасе”.
- Грымоты ў верасні прадказваюць цёплую восень.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Маёнтак Агінскіх, што ў Залессі на Смаргоншчыне, рыхтуецца да святкавання 250-годдзя Міхала Клеафаса Агінскага. У наступным нумары “РГ” чытайце аб тым, што цікавага чакае гасцей Залесся ўжо цяпер.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў СМАРГОНІ

# Чым вам запомнілася гэта лета?

**Анастасія Козел, маладая мама:**



– Нараджэннем дзіцяці! Восьмага чэрвеня нарадзіла дачку. Назвалі яе Амелія. Вось цяпер гуляем з дачушкай і яе старэйшым брацікам.

**Андрэй Кузьміч, футбаліст:**



– Толькі спякотай. Але я спартсмен, таму ў любое надвор'е выходжу на трэніроўкі. Раней гуляў у Гомелі. Калі ўсё складзецца добра, то наступны год магу правесці ў смаргонскай камандзе.

**Наташа Агеенка, школьніца:**



– Паездкай у Брэст, дзе адпачывала разам з бабуляй. Сама я з Маладзечна, але ў Смаргонь прыязджаю да сяброў. Разам мы катаемся на скейце і проста гуляем па горадзе.

**Соф'я Мароз, пенсіянерка:**



– Спякотай. Загарэць не старалася, наадварот, хавалася ад сонца на дачы ці дома. А яшчэ прыязджалі пагасціць да мяне дзеткі з Гомеля разам з унучкай.

**Іна Бралкоўская, у дэкрэтным адпачынку:**



– Нічым асаблівым не запомнілася. Ездзілі сям'ёй купацца на Белае возера, што пад Смаргонню. Але галоўная падзея лета ў нас яшчэ наперадзе – праз пару дзён я павінна нарадзіць дзіця. Тады лета дакладна запомніцца!

**Падрыхтавалі Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**




**Рэгіянальная газета. Rh.by** Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 35 (1009) 29.08.2014.
Друкарня ТДА “Знамение”, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 698. Падпісана ў друк у 10.00 28.08.2014.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ “Банк БелВЭБ” аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”,
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.